ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 34 (1789) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 26 ЖНІЎНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



## 10 ДЗЁН, ЯКІЯ ЎСКАЛЫХНУЛІ СЭРЦЫ

20 ЧЭРВЕНЯ 1990 ГОДА БОЛЬШАСЦЬ З ГЭТЫХ МАЛАДЫХ ЛЮДЗЕЙ УПЕРШЫНЮ СТУПІЛА НА БЕЛАРУСЬ, НА ЗЯМЛЮ СВАІХ ПРОДКАЎ. ГЭТА ІХ, УЖО НАШЫХ ДОБРЫХ ЗНАЁМЫХ — БЕЛАРУСКІ ТАНЦАВАЛЬНЫ ГУРТОК „ВАСІЛЁК" З НЬЮ-ЙОРКА З ЯГО КІРАЎНІЧКАЙ АЛАЙ ОРСА-РАМАНА, ПРЫВІТАЛІ БЕЛАРУСЫ НА АЭРАДРОМЕ Ў ЗАСЛАЎІ. МЕНАВІТА БЕЛАРУСЫ, БО СУСТРЭЛІСЯ ТУТ УСЕ: І ТАВАРЫСТВА „РАДЗІМА", ЯКОЕ ЗАПРАСІЛА ІХ СЮДЫ НА ДЗЕСЯЦІДЗЁННУЮ ПАБЫЎКУ, І ШМАТЛІКІЯ ПРАДСТАЎНІКІ НАРОДНАГА ФРОНТУ З РОЗНЫХ ГАРАДОЎ БЕЛАРУСІ, ДЫ І ПРОСТА СВАЕ ЛЮДЗІ, АБ'ЯДНАНЫЯ Ў РОЗНЫХ СУПОЛКАХ І НЕ АБ'ЯДНАНЫЯ Ў НІЯКІХ.

(Працяг на старонках 6, 7)

# ЦІ ДОЎГА?

Здавалася, што пасля мінулагодняга шоку і адкрытай варажнечы, якая ўскіпела пасля беларусаедчых нападкаў у „Кур'еры Падляшскім", урэшце над Беласточчынай усталявалася чыстае неба. Нават айцы палітычнага клімату перасталі смажыць антыбеларускія бліны.

І вось цалкам нечакана распаўзліся слухі, што нешта дрэннае чвэрыцца ў Белавежскай пушчы: гордыя зубры замянаюцца ў звычайных тутэйшых валоў!

Вірус нейкі, эпідэмія ці што? Нават вучоныя з мясцовай пляцоўкі бязрадна раскладваюць рукі. Аніякія чалавечыя просьбы, каб былі сабою, не прыносяць поспеху.

— Валы мы, ды й усё, — адказваюць некалі гордыя ўладары Белавежскай пушчы, пакорліва спускаючы вочы перад журналістамі, што хмарамі зляцеліся з усёй краіны. А калі хто, барані Божа, успомніць пра іх некалі слаўную радаслоўную, тады, калоцячы сябе ў грудзі, плаксівым хорам гамоняць аб сваёй тутэйшасці, вежапушчанскасці, без, сцеражы Бог, прыметніка „белы".

Вучоныя зайшлі ў тупік: за даследаванне валоў ніхто плаціць не будзе. На тайным пасяджэнні навуковай рады вырашылі паклікаць для кансультацыі заграннічных вучоных калег.

Пачалі з'язджацца ветэрынарны шаманы. Балбатню з зубрамі завялі на ўсіх мовах свету. А зубры: „Валы мы, тутэйшыя, вежапушчанскія!" А калі адзін такі госць хітранькі шпаркі воч скіраваў у ноздры зуброў, потым зморшчыўся і крыкнуў дзікім голасам: „Пан доктар не разумець хвароба", у зуброў ад жаху рогі ў бараны рог скруціліся. Кінуліся тады, бедныя, стрымгалоў з каровім рыкам у рэшткі аголенай пушчы.

Выманіць адтуль іх ужо нічым было немагчыма. Ажно ляснік тутэйшы, што не такія дзівы яшчэ пры санацыйнай уладзе бачыў, за бабкай-шаптухай пасляць параіў.

Палезла баба ў пушчу. Дзень цэлы і ноч дрыжалі на свежай пасляфурнэлеўскай паляне вучоныя. Не адзін з нудаў пералічваў на пачкі долараў кубаметры нядаўніх тут дубоў, што, быць можа, у гэтую хвіліну плылі за акіян. На світанні, мокрая ад слёз і расы, вярнулася бабка-шаптуха дый павалілася ў пахнучую зёлкамі траву. Ледзь дабудзіліся яе вучоныя, тузаючы за худыя плечы. Пра дыягноз пыталіся.

„Не бязнос у іх, а безбеларускасць, — мармытала стомленая бабка. — Во чым хварэюць. Ім усё роўна, на чыёй мяжы і чыю траву скубуць".

Мо ачунялі б яшчэ, зубрамі засталіся б! Але ж калі нават справядлівы ды прыхільны „Тыгоднік Беластоцкі", што сваім знакам „Салідарнасці", быццам ордэнам пашаны, выклікаў у чытачоў даверлівасць, нечакана стаў абліваць нечысцасцямі ўсё, што беларускае, зубры ад жаху анямелі.

Скемілі тады, што зубры яны, беларускія. Іншых няма ж у свеце?! Лепш ім тут, валам тутэйшым, сярод пянькоў былой пушчы век дажыць.

Зацягнула неба азіятчынай над ціхім Беластоцкім краем. Дым Грабаркі папоўз далінамі Бугу і Нарвы, асеў крыўдаю ў добрых сэрцах.

Ці доўга гэтак будзе?

**Віктар Стахвюк**

# З мінулага тыдня

## ВОДГУКІ НА ЎВЯДЗЕННЕ РЭЛІГІІ Ў ШКОЛЫ І ПРАДШКОЛЛІ

У апошнія дні наша грамадскасць была здзіўлена паспешлівасцю, з якой Міністэрства асветы і выхавання аб'явіла аб увядзенні навучання рэлігіі і малітваў у школы і прадшколлі.

Як падаў Цэнтр даследавання грамадскай думкі (ОБОП), у праведзеным нядаўна апросе за навучанне рэлігіі ў школах выказалася толькі 39 працэнтаў запытаных, а 59 працэнтаў лічыць за найлепшае навучанне рэлігіі ў пунктах катэхізацыі. За навучанне рэлігіі па-за школай найчасцей выказваліся людзі ўзростам да 50 гадоў з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй.

„Трыбуна" пацікавілася грамадскай думкай на гэтую тэму, запытаўшы некалькіх прадстаўнікоў розных асяроддзяў. Вось што сказаў Мітрапаліт Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Польшчы Васілій.

„Рэлігія ў школе непатрэбна, бо рэлігія — гэта выхаванне. А якраз справа царквы — выхоўваць, а школы — адукаваць. Апрача таго, існуюць ужо пункты катэхізацыі і рэлігія менавіта там выкладаецца. Увядзенне рэлігіі ў школы як неабавязковых заняткаў, вынікі якіх не адыгрываюць ніякай ролі пры пераводзе ў наступны клас, была б дэградацыяй рэлігіі, яна страціла б сваё sakrum і была б зведзена да прадмету другой катэгорыі.

Мы жывем у дэмакратычнай дзяржаве, і таму рэлігія не можа накідвацца насільна. Кожны, хто хоча, можа выхоўваць сваіх дзяцей у духу рэлігіі. Школа, пераймаючы навучанне рэлігіі, перастае быць свецкай, а наша дзяржава таксама ж свецкая.

Існуе таксама магчымасць узнікнення вельмі небяспечнай з'явы дыскрымінацыі дзяцей з іншымі светапоглядамі. Школа не толькі вучыць, але і інтэгруе дзяцей. Увядзенне рэлігіі можа шкодзіць гэтаму важнаму заданню інтэграцыі грамадства".

А вось у „Трыбуне" цытата з „Каментарыяў" З. Рыкоўскага:

„Кожная абсалютная ўлада асуджана на грэх арагансці. У нейкі момант пераходзіць яна мяжу паміж тым, што яшчэ можна, і тым, чаго ўжо нельга растлумачыць, губляе самакантроль і самакрытыцызм, здольнасць да самаабмежавання. А тады абуджаецца бунтаўнічая думка аб свабодзе.

Араганцкае рашэнне аб увядзенні рэлігіі і малітваў у школы і дзяржаўныя прадшколлі выкліча крыўду і супрацўленне ў адносінах да абсалютарызму".

## НОВАЕ СВЯТА

Упершыню сёлета дзень 15 жніўня стаў дзяржаўным святам. Да гэтага часу каталікі ў гэты дзень урачыста ўшаноўвалі традыцыю Марыйнага свята — Божай Маці Зельнай. У гэтыя ж дні прыпадае 70-ая гадавіна пераможнай бітвы, гэтак званага цуду над Віслай, у якой войскі маладой Рэчыпаспалітай у 1920 годзе здабылі перамогу над рэвалюцыйнай арміяй Расіі. З гэтай нагоды па ўсёй Польшчы адбыліся вялікія ўрачыстасці на месцах баёў гэтай вайны і на іншых памятных месцах. У Беластоку перад касцёлам Роха адбылося набажэнства ў памяць загінуўшых у 1920 годзе, у якой удзельнічалі прадстаўнікі мясцовых і цэнтральных улад.

## ЖЫВЕМ УСЁ ГОРШ

Як падае ГУС, у першым паўгоддзі сярэдні месячны заробак у чатырох падставовых галінах гаспадаркі склаў 839 тыс. зл., што дае ўзрост у параўнанні з другім паўгоддзем мінулага года на 149,8 прац. Дэталічныя цэны за гэты перыяд павялічыліся на 294,1 прац. Такім чынам, рэальны заробак зноў моцна паменшыўся. На харчаванне выдаем каля 52 прац. даходаў (у сем'ях пенсіянераў каля 61 прац.). Год назад мы выдавалі на 13—15 прац. менш.

# ЗАЯВА

12 ліпеня г.г. была злачынна падпалена царква ў праваслаўным санктуарыі на святой гары Грабарцы. 29 сакавіка г.г. была падпалена царква ў Кракаве, 12 красавіка гарыць царква ў Нарве, 17 красавіка было апаганена яшчэ адно святое месца Праваслаўя — капліца Крынычка каля Гайнаўкі. Апошнімі гадамі згарэлі цэрквы ў Кленіках, Чыжах, Ячне, Крушыняках, двойчы падпальвалася новабудаваная царква св. Духа ў Беластоку. Польскае праваслаўе, а разам з ім і агульнанацыянальная культура, беспаваротна страцілі бясцэнныя помнікі духоўнай і матэрыяльнай культуры.

Гэты шэраг пажараў на Беласточчыне выклікае глыбокую трывогу сярод праваслаўнага насельніцтва. Атмасфера сярод вернікаў напружаная і поўная неспакою, што зараз вяртаецца 1938 год, калі праваслаўныя святыні зніштажаліся наўмысна.

У такой сітуацыі я звяртаюся да дзяржаўных уладаў з патрабаваннем прыняць рашучыя і эфектыўныя меры дзеля забеспячэння нашай духоўнай спадчыны — святыняў. Я прашу Пана Прэм'ера накіраваць у Высокую Палату праект закона „аб адносінах дзяржавы да Праваслаўнай царквы". Апрацоўка праекта гэтага закона была закончана ўжо 2 месяцы таму назад. Прашу таксама Урад прыняць рашэнне, якое тычыцца перадачы праваслаўнаму Благавешчанскаму манастыру ў Супраслі пасляманастырскага будынка, які зараз пустуе і абнішчваецца. Хачу паінфармаваць Высокую Палату, што ў гэтай справе Камісія Нацыянальных і этнічных меншасцяў ужо двойчы звярталася да Урада з адпаведнымі дэзідэратамі.

Я звяртаюся таксама да Царквоў усіх канфесіяў, да грамадскіх арганізацыяў і ўсіх людзей добрай волі з заклікам прыкласці намаганні дзеля стварэння атмасферы паразумення і звычлівасці да жывучых у нашым супольным доме — Польшчы — канфесійных і нацыянальных меншасцяў. У будучым годзе Беласточчына гасцяваць будзе Яго Святэйшую Дастойнасць — папу Яна Паўла II. У перыядзе, які папярэднічае гэтаму візіту, існуе неадкладная патрэба стварэння фактаў, якія засведчылі б аб экуменічнай, згоднай з духам хрысціянскай любові, атмасферы сужыцця хрысціянаў у гэтым кутку нашай айчыны.

**Яўген Чыквін,**

пасольскі мандат № 82

**(Заява была прачытана на пленарным пасяджэнні Сейма 20 ліпеня 1990 года).**

**З крымінальнай статыстыкі**

## ПАДПАЛЕННІ, УЗЛОМЫ, ГРАБЯЖЫ

Не змяншаецца статыстыка злачынства ў нашым ваяводстве. Найчасцей нідзе не працуючыя, нярэдка выйшаўшыя з арышту ці з турмы рэцыдывісты ў першыя ж хвіліны нападаюць на людзей, узломваюцца ў крамы ў пошуках грошай, гарэлкі, рознага тавару. Вось толькі некалькі справаў, якія вядзе або закончыла ў апошнія дні ваяводская пракуратура ў Беластоку.

* * *

Раённы пракурор Бельска вядзе следства ў справе падпалення царквы ў Грабарцы. Затрыманы злодзей-рэцыдывіст Ян С. прызнаўся да гэтага злачынства. Міліцыя правяла лакальны агляд з арыштаваным. Прызнаўся ён таксама і ў іншых злачынствах.

* * *

Шматразовы рэцыдывіст Чэслаў К., будучы часова вызвалены з турмы, узламаў дах крамы па вуліцы Сланімскай у Беластоку і ўкраў грошай і тавару на суму 15 мільёнаў злотых.

* * *

Пракуратура ў Беластоку закончыла акт абвінавачвання на мужчын, якія 14 снежня мінулага года ўзламалі замок у краме з алкаголем у Васількове і забралі тавару на суму 3,5 мільёна злотых. Абвінавачаныя знаходзяцца ў арышце.

# Наша пошта

На вялікі жаль, я ўжо амаль не атрымліваю вашага вельмі цікавага тыднёвіка. Былі чуткі, што з пачатку ліпеня ён зноў будзе рэгулярна прыходзіць па падпісцы, але ўсё засталося па-ранейшаму. Не дабіцца толку ні ў агенцтве „Саюздрук“, ні ў тыднёвіку „7 дзён“.

Я даўно збіраўся і вось вырашыў выслаць вам некалькі нумароў часопіса „Крыніца“. Думаю хутка даслаць яшчэ два нумары „Крыніцы“ і апошні (сёмы) нумар „Бярозкі“. Яшчэ ў мяне ёсць цікавыя, на мой погляд, кніжкі на беларускай мове. Я спадзяюся, што вы знойдзеце каму перадаць усё гэта. Магчыма, гэта будзе школа ці нейкі беларускі гуртэк або проста хлопец ці дзяўчына. Калі вы паведаміце мне адрас, я магу рабіць такія пасылкі непасрэдна туды і далей.

Крыху пра сябе. 31 год, інжынер-электронік, ёсць сям'я, толькі хаты пакуль што няма. Ужо тры гады актыўна цікаўлюся беларускай гісторыяй, культурай і мовай (я яшчэ і зараз ёю свабодна не валодаю). Ужо была сувязь з „Нівай“: я атрымаў кніжную ўзнагароду за крыжаванку.

Ёсць у мяне два пытанні. Дзе і як купіць беларускі каляндар БГКТ? Раней вы збіраліся змясціць такую інфармацыю, але, як я ўжо казаў, „Ніва“ да мяне не даходзіць. І другое. Магчыма, вы мне падкажаце, як мне набыць дыскі беларускіх рок-гуртоў вытворчасці польскіх фірмаў гуказапісу. Газета „Чырвоная змена“ паведамляла пра такія дыскі „Уліса“ і „Бонды“. Можа вы мне што параіце.

Георгій Тарасевіч,
Салігорск

Ад рэдакцыі. Сардэчна Вам дзякуем за дасланыя часопісы. І за прапанову даслання кніжак. Паколькі Вы не назвалі, якія кніжкі маюцца на ўвазе, нам цяжка падаць Вам прозвішча канкрэтнага адрасата. Думаем, што найлепш зробіце, калі дашлеце іх на адрас Бельскага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча: 17-100 Бельск-Падляшскі, вул. Каперніка 4, Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання.

Што датычыць клопатаў з атрыманнем „Нівы“ (ці набываннем Беларускага календара) на Беларусі, то мы таксама не можам „дабіцца ніякага толку“ ў Мінску. І думаем, што гэтак будзе датуль, пакуль кіраваць жыццём у рэспубліцы будзе каланіяльная адміністрацыя. Можам параіць Вам толькі такое: калі нехта з Вашых знаёмых выбіраецца ў Беласток, то папрасіце яго набыць Вам каляндар тут на месцы. Можна таксама ў нашай рэдакцыі атрымаць некаторыя нумары „Нівы“ з тых, якія не пайшлі на Беларусь пасля спынення высылкі. Самі іх даслаць не можам, бо не маем на гэта сродкаў.

Нам нічога невядома наконт выпуску дыскаў беларускай рок-музыкі польскімі фірмамі гуказапісу. Магчыма, што ў „Чырвонай змене“ ведаюць лепш. Затое нам вядома, што дыскі „Уліса“ і „Мроі“ ды два дыскі з лепшымі кампазіцыямі „Хіт-парада“, які вядзе радыёстанцыя „Беларуская маладзёжная“, будуць выдадзены маскоўскай „Мелодыяй“ (пра гэта „Ніва“ паведамляла ў № 29 у матэрыяле: „У эфіры гучыць беларускае слова“).



# Свойскія малюнкі



Будынак былой сінагогі ў Тыкоціне.
Мал. У. Петрука.

# Сакрат Яновіч
# Жыве Беларусь!

— 9 —

У краіне эканамічна і грамадска ненармальнай яе сталіца празмерна разрастаецца. Мінск менавіта такі: пад двухтысячны год пражывацьме ў ім мінімум чвэрць насельніцтва дзесяцімільённай рэспублікі. Людцы збягаюцца ў цэнтр. Чалавек жыве толькі раз і шукае перспектыў для сябе, будучыні для дзяцей. А ў правінцыі — так сказаць — дрымучы лес ды стаячая вада. І Чарнобыль.

Ад гэтай анамаліі накшталт бядотнай Лацінскай Амерыкі або паўгалоднай Чорнай Афрыкі карысць прынамсі такая, што беларускі нацыянальны рух робіцца гарадскім. Баранавіцкая міліцыя можа збіць цябе да бяспамяці за патрыятычную дэманстрацыю, але мінская — ужо не. Непрыманне ўладамі беларушчыны змяняецца пад націскам міжнародных палітычных абставінаў. Стала немагчымым утрымліваць інтэгральна рускае аблічча Беларусі, падкошваць самы сэнс існавання Беларускай ССР. Шахавых і матных сітуацыяў тут некалькі, і не так вельмі галоўнае цяпер тое фармальнае беларуска-савецкае членства ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Рашаючым ёсць перараджэнне Савецкага Саюза ў унію пятнаццаці самастойных дзяржаваў. Афіцыйны Мінск, вядома, супроць гэтага распаду імперыі, з запалам размыў бы да самюткага дна карэнную нацыю. Але вось канфуз: сама Расія ўгледзела, нарэшце, увесь анахранізм неацарскай стратэгіі „хватать и не пущать“ дзеля перамогі камуністычнай утопіі. Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік не апраўдаў сябе найперш як матэрыяльная патэнцыя. З яшчэ істотнай для свету паўвеку назад гаспадарчай сілы ўпаў да ролі сыравіннага дадатку для заходніх прамысловых комплексаў і кантынентальнага рынку збыту. Еўропа дрыжыць цяпер не перад савецкай арміяй, занятай блакадаю наспяваючай рэвалюцыі супроць айчыннай наменклатуры; у бліжэйшы час можа захліснуцца яна высокай хваляй эміграцыі са славянскіх рэспублік у першую чаргу.

Апазіцыйнаму Беларускаму Народнаму Фронту „Адраджэнне“ далёка да ўлады. Ён яшчэ ўсяго надакучлівая муха, што лётае над палітычна сонным беларусам, якога трохі разбудзіла гіганцкая чарнобыльская катастрофа і свабода пабыць разяваю ў суседняй Польшчы. Іронія лёсу сённяшняй беларускай культуры і мовы ў тым, што выратуе яе ад агоніі не слабасільны змагар, але ўсемагучы яе вораг. На вялікі жах жыватастаму начальству, Беларуская ССР бязлітасна засуджана бегам падзей на суверэннасць. Таму аніяк нельга ёй заставацца надалей антыбеларускай, выгодністым фальваркам падмаскоўскім.

Час ад часу заязджае ў Беласток нейкая гродзенская дэлегацыя для падпісання дамовы з палякамі. Тады машыністка ў нашай „Ніве“ перажывае вэрхал: перакладае ды перапісвае па-беларуску гасцям тэкст акта. Бо ў іх, у Гродне, пакуль што няма інтэлігентна беларускамоўных дырэктараў, няма і нацыянальнага шрыфту, вядома. Але гэта часовы, пераходны, перыяд. Праз якіх-небудзь дзесяць гадоў усё будзе, нават бела-чырвона-белы сцяг над горадам ды герб Пагоні ў кіраўніцкіх кабінетах. Усяму свой час і пара.

(Працяг будзе)

Казімір Сваяк

## ГЫМН РОДНАЙ ЗЯМЛІ

*Зямліца прошласьці ціхой.*
*Крывавай спісана рукой,*
*Айчызна — Маці — Беларусь,*
*Цяжкі лёс Твой.*

*Паклон с трудом Тваей дружбе,*
*Паклон за волю барацьбе,*
*Айчызна — Маці — Беларусь,*
*Паклон Табе.*

*Жалосна плача песьнь Твая*
*І Бога моліць, сьлёзная,*
*Айчызна — Маці — Беларусь,*
*Ты родная.*

*Ідзе вось ясная пара,*
*Праўду сьвеціць нам зара,*
*Айчызна — Маці — Беларусь,*
*Гарой, Жыва!*

## АЙЧЫНЫ МІЛАЙ...

*Айчыны мілай зор на сабе чую,*
*Куды ня пойду з самлелай душою;*
*Айчыны сьлёзнай праклёны лічу я:*
*Ратунку кліча — „Ратуйце з разбою!“*

*І над Айчынай і над сабой плачу,*
*Што памагчы ей — я хворы, бязсільны:*
*Што словы горкі надарма я трачу:*
*З душ нашых вее холад замагільны.*

*Зор мой дарэмна шукае выбаўцы,*
*Ня віджу сільных між браці паганай, —*
*І не чакаю з рук божага Даўцы*
*Ужо збаўленьня з долі апляванай.*

*І толькі ў самым бяздоньні няверы*
*Іскра надзеі у попеле тлее:*
*Іскра надзеі, што рана бяз меры*
*Долі народнай душы разагрэе.*

*Іскра бязвольна пажарышчам стане,*
*Аж твар схаваюць нябесныя зоры,*
*І дух народны адважна паўстане:*
*Раўняці будзе даліны і горы.*

*Будаваць будзе на зломах айчыны*
*Рукой магутнай з агнём Промэтэя,*
*А сам як згіне, дасьць тэстамэнт сыну,*
*Каб не змалела Айчыны ідэя...*

## ПАШЛІ МНЕ, БОЖА...

*Пашлі мне, Божа, пару такую,*
*Калі пачнём мы Імшу сьвятую*
*За край наш родны адпраўляць;*
*Бо вельмі цяжка, што мова наша —*
*Розуму й сэрца нашага паша*
*Ня ўмее Бога выслаўляць.*

*Пашлі мне, Божа, пару такую,*
*Калі зямельку, сьлязмі злітую,*
*Пачнём мы лепей шанаваць;*
*Бо вельмі сумна, як нам чужынцы*
*Даюць ня жартам свае гасьцінцы,*
*Каб над бяздольным панаваць.*

*Ня дай жа, Божа, прыждаці часу,*
*Калі б народ мой ня знаў папасу:*
*Другіх пачаў бы біць;*
*Бо вельмі пекна, што Русьняк бедны*
*Ня глянуў крыва на гон суседны,*
*Крыві ня сьмеў пусьціць...*

(Са зборніка „Мая ліра“)

# 10 ДЗЁН, ЯКІЯ ЎСКАЛЫХНУЛІ СЭРЦЫ

**(Працяг са стар. 1)**

Калі ў мінулым годзе нью-йоркскі „Васілёк“ прыехаў упершыню на Беласточчыну, амаль ва ўсіх іх адчуваўся лёгкі сум: во, каб далей, на Беларусь! І якраз у „Ніву“ пазваніў галоўны рэдактар „Голасу Радзімы“ Вацлаў Мацкевіч і спытаў пры нагодзе, ці прыехаў ужо „Васілёк“. А як жа, паспяшаліся мы паведаміць, прыехаў, але найвялікшай іх марай было б пабываць у Мінску, на Беларусі. Размова была канкрэтная. „Калі хочуць? Адразу цяпер, ці іншым разам?“ — спытаўся В. Мацкевіч. Вядома, хацелі б адразу, але, на жаль, не маглі: устрымлівалі тэрміны водпускаў, многія адразу пасля паездкі ў Польшчу мусілі вяртацца на працу ў сваіх фірмах. Ды й наогул, да кожнай жа паездкі трэба падрыхтавацца. А можа лепш было б, каб наогул запрасіў іх хто іншы, не таварыства „Радзіма“, бо, як вядома, іх папярэднія адносіны не ўкладаліся найлепш...

Іншага спонсара, аднак, не знайшлося, а таварыства „Радзіма“ слова стрымала і ўсё афарміла вельмі спраўна. 17 членаў гуртка „Васілёк“ (з дарослых — толькі Ала Орса-Рамана, Вера Бартуль і Надзя Кудасава, а рэшта, хаця і маладыя людзі, дык таксама нашы знаёмыя — Аня Бартуль, Коля і Паўлік Рамана, Алеся і Юрка Кіпель, Вера Запруднік, Нансі Захаркевіч, дарэчы, адзіная дзяўчына, якая не гаворыць па-беларуску, бо маці яе амерыканка, але сябры і так называюць яе па-свойму Надзяй, Ліда Данілюк, Галіна і Коля Бахар, Віктар Тур, Дарота і Пётр Рыжыя, ну, і вядомая ўжо нам па мінулагодніх здымках „рэпарцёрка“ Паўлінка Сурвіла, яна ж і танцуе таксама) прыехалі на Беларусь на невялікі адрэзак часу, усяго на 10 дзён. Але гэтыя 10 дзён, можна смела сказаць, ускалыхнулі людскія сэрцы... І варта было б дадаць яшчэ, што іхні візіт ператварыўся ў сапраўдную маніфестацыю, у фестываль беларуска-беларускай дружбы.



*Прыём у таварыстве „Радзіма“.*



*Перадача медыкаментаў для чарнобыльскіх дзяцей у Аксакаўшчыне.*

Цяжка было б адным сказам акрэсліць мэту прыезду амерыканскіх беларусаў да сваіх суродзічаў. Дабрачынныя выступленні ў дар ахвярам Чарнобыля? Перадача медыкаментаў для чарнобыльскіх дзяцей ад беларускай моладзі з Амерыкі? Знаёмства з зямлёй продкаў, з яе гісторыяй? А мо пазнанне сённяшняга бурлівага дня Беларусі, дзе адбываецца столькі перамен, пра якія гэта моладзь дагэтуль магла толькі чуць?...

Здаецца, было тут усяго пакрысе. Здаўна насілі яны ў сабе юнацкую мару пра далёкую, але як жа блізкую іх сэрцам блакітнавокую і недасяжную краіну бацькоў і дзядоў. І вось нарэшце гэтыя мары сталіся явай.

Стомленыя амаль паўтарасутачнай дарогай (у Маскве чакалі яшчэ Алесю Кіпель, якая прылятала з Мюнхена, куды вось ужо на два гады загналі яе адвакацкія абавязкі), паўпрытомныя, але шчаслівыя, пасля невялічкай „практыкі“ даюць свой першы канцэрт ужо 22 чэрвеня ў Мінскім палацы прафсаюзаў.

„Як жа быць? — думаецца мне. — Я ж якраз буду на вяселлі ў родзічаў!“ Але мушу быць на гэтым канцэрце. Роўна а 19.30 з нейкім прыстойным хлопцам вырываюся з вяселля. На сваёй машыне вязе ён мяне на канцэрт. Не ведаю, калі канцэрт скончыцца, і таму не дамаўляюся з ім на дарогу назад.

**ДА 580-Й ГАДАВІНЫ ГРУНВАЛЬДСКАЙ БІТВЫ**

Адной з найбольшых ды самых крыўдных і самых балючых „белых плямаў“ у гісторыі беларускага народа быў і застаецца сам ход Грунвальдскай бітвы. Якімі толькі абразлівымі метамі вось ужо амаль шэсць стагоддзяў не абвешваюць „таварышы па зброі“ нашых беларускіх змагароў, герояў, якія заплацілі найвышэйшую цану, бо аддалі сваё жыццё дзеля перамогі над адвечным ворагам. Цяпер мы жывём нібыта ў часе высвятлення розных табу з мінулага, запаўнення „белых плямаў“. Мо пара ўжо, нарэшце, сказаць слова праўды і пра Грунвальд?..

Што ж, наважмася ды паспрабуйма пайсці хоць жудасна крывавым, але ж у выніку пераможным, трыумфальным баявым шляхам нашых герояў, пачынаючы ад золаку таго вялікага дня 15 ліпеня 1410 года. Гэта быў аўторак. Сонейка выхінулася з-за пагоркаватага, лясістага гарызонту а 3-й гадзіне і 14-ць мінут, крыху засмужанае, бо абяцала ўсмажлівы, душны дзень. І нам, чытач, таксама прыдзецца пераждаць яго з кроплямі поту на чале, бо спатрэбіцца немалы высілак, каб пераадолець хаця б асноўную фальш, якою забівалі з маленства нашы галовы і чужыя і „свае“ малыя і вялікія „знаўцы“ беларускае мінуўшчыны.

# ТРЫУМФ

Перш за ўсё трэба адкінуць тое, чым кармілі школы польскія ды і іншыя таксама нашых дзядоў, бацькоў, як і нас, што быццам бы ўсёй Вялікай вайною 1409—1411 г.г. супраць крыжакоў і Грунвальдскай бітвай кіраваў адзінаўладна кароль польскі Уладзіслаў Ягайла. Гэтак ад Яна Длугаша, храніста з XV стагоддзя, пачынаючы і на бадай кожным сённяшнім палякy ці палёнусе канчаючы, свята ў гэтым усе і не толькі яны пераканаciv. Аднак, гістарычная праўда іншая: кароль Ягайла кіраваў толькі войскамі Каралеўства Польскага, арміяй жа Вялікага княства Літоўска-Беларускага камандаваў вялікі князь Вітаўт, абодва военачальнікі былі цалкам самастойныя і незалежныя ад сябе. Зрэшты, інакш і быць не магло, бо воі Вялікага княства аніяк і ніколі не лічылі сябе падданымі Каралеўства Польскага, і гэтаму беларускае баярства дало вельмі востры і гучны выраз на віленскім сойме 1398 г., катэгарычна адмаўляючыся плаціць даніну каралеве Ядвізе. Дадайма, што і князь Вітаўт не належаў да людзей пакладзістых і не аддаў бы свае арміі і асобы пад чужую каманду. Гэта і запісаў аўтар „Хронікі Быхаўца“: „І сабралі між сабою войскі вялікія з абодвух бакоў. Кароль Ягайла з усімі сіламі Польскае Кароны, князь вялікі Вітаўт з усімі сіламі літоўскімі і рускімі (г.зн. беларускімі і ўкраінскімі — М.Г.) ды са шматлікімі татарамі з арды, а магістр прускі таксама з сіламі сваімі і з усім Рэйхам Нямецкім“. Такім чынам летапісец выразна падкрэсліў поўную роўнасць і незалежнасць караля, вялікага князя і магістра крыжацкага.

Таксама і чужыя і „свае“ пісакі зняволілі нашую свядомасць да таго, што нібыта вядучую ролю ў Грунвальдскай бітве адыграла войска польскае. Яно быццам бы давала ўзор храбрасці ды баявітасці іншым і яно вяло за сабою ўсіх, асабліва ж „паўдзікіх ліцвіноў“, гэта значыць — беларусаў. Аднак на грунвальдскім бітоўным полі было якраз наадварот! Гэта польскае рыцарства належала да самых пасіўных. А пра тое ў значнай ступені паклапаціўся час і крыжацкія агенты. Таму што ў апошніх дзесяцігоддзях перад Грунвальдам польская шляхта, асабліва ў Малапольшчы, гады ў рады ўдзельнічала ў бітвах і яе мячы ў ножнах няблага пашчарбіла іржа. Затым яна ахвотна настаўляла вушы на крыжацкую прапаганду, якая лямантавала па ўсёй Еўропе ды Польшчы, што польскае рыцарства здраджае Каталіцкаму касцёлу і веры каталіцкай, бо разам з „паганцамі“ (гэта значыць: літоўцамі і татарамі) ды „схізматыкамі“ (праваслаўнымі беларусамі, украінцамі і гусітамі-чэхамі) падымае меч супраць братоў-рыцараў, якія служаць святому Крыжу. Апрача таго, набірала сілы легенда пра магутнасць і неперa-

 

# Астанкі мінулага

Белавежа і наваколле — гэта не толькі лес, зубры і наогул цікавая прырода. Турысты, якія сюды прыязджаюць, вельмі зацікаўлены старым драўляным будаўніцтвам, арыгінальным упрыгожваннем дамоў. Як правіла, іх зрок прыцягваюць прыдарожныя праваслаўныя крыжы, калодзежы з жураўлямі. Гэтага зараз у іншых раёнах Польшчы не сустрэнеш. Яно пратрымалася толькі ў нас, на Беласточчыне — перш за ўсё ў яе паўднёва-ўсходняй частцы. Можна ўсур'ёз сказаць, што гэта наша багацце. Мы гэтым павінны даражыць. А як ёсць у рэчаіснасці? На вачах знікаюць колішнія старыя дамы. Зрэдку хтосьці працягвае звычай упрыгожвання жыллёвых будынкаў разьбой у дрэве. Валяцца са старасці калодзежы з жураўлямі, таксама прыдарожныя крыжы (ці хтосьці ставіць зараз новыя?) Вятракі сустрэнеш ужо толькі ў скансене. Ці так павінна быць? Ці нельга пастарацца прадоўжыць жыццё хаця б некаторых аб'ектаў? Пішу гэта і, праўду кажучы, не веру, што мае пісанне каму-небудзь трапіць у сэрца. Мы цяпер больш гонімся за грашыма. А мінула — што ж, яно мінулае! Эх, часы, часы!

Тэкст і фота **Пятра Байко**



*Калодзеж з жураўлём у Падаляnах I — вёсцы, якая зараз уваходзіць у састаў Белавежы.*



*Праваслаўны крыж пры Броўскай дарозе (на скраю Белавежскай пушчы).*




**ЗАПАСЫ НА ЗІМУ**

### МАРЫНАВАНЫЯ ГРУШЫ

На 2 кг груш трэба ўзяць 1 кг цукру, 1-2 шклянкі воцату (10-працэнтнага), некалькі гваздзік.

Грушы памыць, абабраць, парэзаць на палавінкі ці чвэрткі, кінуць у кіпячую ваду, абварыць, адцадзіць. З цукру, распушчанага ў шклянцы вады, падрыхтаваць густы сіроп і класці ў яго часткамі абвараныя грушы. Варыць да таго моманту, пакуль не стануць яны празрыстымі. Вымаць з сіропу пры дапамозе друшлаковай лыжкі. Калі зварацца ўсе грушы, дадаць у сіроп гваздзіку і воцат (больш або менш — хто як любіць), закіпяціць. Гарачым, кіслым сіропам заліць грушы, астудзіць іх. Злажыць у слоікі, перахоўваць у халодным цёмным памяшканні.

### МАРЫНАВАНЫЯ СЛІВЫ

На 1 кг сліў трэба ўзяць 50-60 дэкаў цукру, 1 шклянку 10-працэнтнага воцату, некалькі гваздзік, кавалак карыцы (цынамону).

Слівы памыць, асушыць, паліць іх гарачай вадою і выняць костачкі. Зварыць сіроп з цукру, паўшклянкі вады і воцату, дадаючы карыцу і гваздзікі. Слівы злажыць у падрыхтаваныя слоікі, заліць сіропам. Слоікі зачыніць і ўставіць у кацёл з цёплай вадой. Пастэрызаваць 20 мінут.

### МАРЫНАВАНЫ ГАРБУЗ

На 2 кг гарбуза ўзяць 75 дэкаў цукру і паўтары шклянкі 10-працэнтнага воцату.

Гарбуз памыць, перарэзаць напалавіну, выняць насенне, тады абабраць, нарэзаць костачкай. Цукар усыпаць у каструлю, дадаць воцат і ваду (1 шклянку). Зварыць сіроп, уладжыць гарбуз і варыць на невялікім агні, пакуль не стане празрысты. Тады астудзіць, злажыць у слоікі.

### СПАРЖОВАЯ ФАСОЛЯ

На 2 кг жоўтай ці зялёнай спаржовай фасолі трэба ўзяць 4 лыжачкі солі і 1 лыжку цукру.

Фасольку дакладна памыць, ачысціўшы валокны, і ўкінуць у кіпячую ваду так, каб струкі плавалі ў ёй свабодна. Варыць 3-4 мінуты. Адцадзіць. З трох шклянак вады, солі і цукру зрабіць заліву, гарачай заліць фасолю. Пералажыць у памытыя і выпражаныя ў духоўцы або вывараныя слоікі, зачыніць іх, уставіць у кацёл з гарачай вадой. Пастэрызаваць паўтары гадзіны. Астудзіць. На наступны дзень паўтарыць пастэрызацыю на працягу 30 мінут.

**Гаспадыня**




Дарагое Сэрцайка! Мне 26 гадоў. Тры гады мы ходзім з хлопцам, якога кахаю больш жыцця. За гэтыя тры гады бывала парознаму. Мы разыходзіліся, сыходзіліся ізноў, але тады толькі я мела падставы, каб нервавацца, бо хлопец мой занадта, відаць, не перажываў гэтага. Заўсёды ў яго знаходзілася новая кампанія, у якой ён адчуваў сябе цалкам някепска. А я сядзела адна, успамінаючы ўсё, што злучала нас на працягу ўсяго нашага знаёмства, і не глядзела на іншых мужчын. Толькі ён быў маім ідалам, бо быў маім першым каханнем і за ім не бачыла я свету.

У апошні час я пачала адчуваць сябе кепска і вырашыла пайсці да лекара. Высветлілася страшная справа: неабходная аперацыя „па-жаночаму". Я перапужалася не на жарты. Гэта ж падумаць, можа ў мяне рак? Можа, прыдзецца выкінуць усе жаночыя органы... Што буду я тады вартая?... Мой хлопец быў якраз пад рукою і я не магла не падзяліцца з ім сваім горам. Я мусіла некаму расказаць пра свой страх, пра тую небяспеку, якая пагражала мне. У першы момант я падумала, што хлопец мой адвернецца ад мяне, што, зрэшты, рабіў няраз тады, калі была я здаровая. Яго рэакцыя была нечаканай для мяне. Ён пачаў мяне супакойваць, пацяшаць. Стаў прыходзіць да мяне штодзённа. Браў мяне на шпацыр, нават мы ездзілі на лона натуры. А пасля, як гром з яснага неба, выйшла ад яго прапанова, каб мы ўзялі шлюб. Я анямела. Божа, які ж ён усё ж высакародны чалавек! У сітуацыі, калі мне пагражае небяспека, якая можа пакінуць след на ўсё мае далейшае жыццё, ён прапануе мне шлюб! Я, вядома, была ад шчасця ў сёмым небе, і ў такім настроі пайшла на аперацыю.

Аперацыя прайшла вельмі добра. Усё ўдалося зрабіць як трэба і нічога не трэба было выкідаць. Я адчувала сябе шчаслівай, паўнацэннай жанчынай. Пагаварыла з краўчыхай наконт шлюбнай сукенкі, маці ж ужо раней купіла матэрыял. Разглядалася, дзе б гэта, у якой зале зрабіць вяселле. Мой хлопец пасля таго, як я вярнулася з бальніцы, наведваў мяне часта. Мы рабілі планы на будучыню, але ўсе думкі і размовы нашы найчасцей датычыліся вяселля. Аднаго дня мой хлопец, развітваючыся, сказаў, што, калі прыдзе наступны раз, то вырашым дату вяселля. Я ўжо адчувала сябе лепш, акрыяла крыху, дык выходзіла ў горад, афармляла там розныя справы. Тое, што аперацыя ўдалася, а да таго яшчэ я выходжу замуж, дадавала мне сілы. Здавалася, што ўвесь свет усміхаўся мне, а я, нягледзячы на перажытую аперацыю, лящела бы́цам на крылах.

Аднак жа больш у мяне мой хлопец не паявіўся. Мінуў ужо месяц, як чакаю ад яго хаця б тэлефона. Кажуць, брак вестак гэта добрыя весткі, але, бадай, не ў гэтым выпадку. Дарагое Сэрцайка, як жа можа ашукваць так чалавек чалавека? Тым больш, чалавека, які перажыў такую цяжкую аперацыю...

**Тамара**

Тамара! Відаць, хлопец твой не такая ўжо і свіння, як здавалася б на першы погляд. Ён хацеў пацешыць цябе перад цяжкім экзаменам, якім мела быць твая аперацыя. Мо хацеў, каб ты на гэты экзамен ішла ў радасным настроі. Вядома ж, што добрыя весткі гояць раны — фізічныя і душэўныя. Мо калі ўбачыў, што ты ўжо папраўілася і цябе не трэба падтрымліваць на духу, ён адышоў.

А мо проста, як рабіў гэта няраз, ізноў перадумаў, бо альбо знайшоў нешта новае, альбо сам перапужаўся сваёй прапановы. Пачакай, мо ізноў вернецца калісьці. Але ці варта чакаць?...

**Сэрцайка**




Дарагі Астроне! Я хворая, была нядаўна ў лекара, сказаў, што гэта хранічная хвароба жалудка. Баліць мне амаль пастаянна. Я ўжо непакоюся, што мо гэта і што яшчэ горшае. Я ўжо старая, да васьмідзесяці гадоў мала бракуе. І вось сняцца мне амаль кожную ноч сны. Раз, што лезу я па нейкіх узгорках, мне цяжка, цесна, ледзь прапіхаюся. Але ўрэшце пераадолела я гэтую цяжкую дарогу і выйшла на сцежку роўную. З аднаго боку гэтай сцежкі было прыгожае зялёнае жыта. Далей бачу, нехта намалацію вялікія горбы жыта. То зноў прыснілася, што спякла я прыгожы пірог. А ў апошнюю ноч сніцца, што я апранаю белую, прыгожую, з фальбанкамі сукенку. Апранула, але ж падумала, што яна мне не падыходзіць. Я ж старая, а гэта сукенка для маладой жанчыны. Скінула яе і апранула цямнейшую. Далей сніцца, што я бягу і мне лёгка, лёгка. Я аж сама сабе не веру і думаю ўва сне: „Няўжо я буду так бегаць?" (у сапраўднасці я ледзь хаджу, падпіраючыся кіёчкам). Спераду далёка ад мяне беглі дзяўчаты, апранутыя ў белыя сукенкі. І яшчэ ўва сне бачыла мужчыну-нябожчыка. Але ён мне быў абыякавы; ніякай справы да мяне не меў.

Астроне, адкажы, што могуць абазначаць гэтыя мае сны?

**Анна**

Анна! Хаця ты вельмі хворая, то хваробай сваёй не перажывайся! Хаця табе цяжка, ты ходзіш па ўзгорках, але ўсё ж выходзіш на роўную сцежку, значыцца, і з хваробай будзе таксама. Што будуць змены на лепшае, пераконвае мяне і тое зялёнае жыта, і тое, што спякла прыгожы пірог, і тыя белыя прыгожыя сукенкі таксама. Добра сведчыць аб тваім далейшым здароўі тое, што ты ўва сне бегаеш і тады табе бывае вельмі лёгка. Мужчына-нябожчык, хаця і не меў да цябе ніякай справы, таксама абазначае добрае.

**Астрон**



 

# Зорка
## Старонка для дзяцей

Станіслаў Шушкевіч

### ДЫМНА Ў ПУШЧЫ АД МАХОРКІ

Сядзеў мядзведзь у бярлозе,
Курыў люльку на парозе.
Белавежскія зубры
Кажуць: — Наш сусед стары
Безупынна люльку смокча
І ў яе махорку топча.

Зайчык у кусты забраўся,
Дыму ў пушчы наглытаўся.
Сойка ў гушчу паляцела,
Галава ёй забалела.
Дым падняўся аж пад хмары,
Страшна, нібы на пажары.
Мушкі, мошкі на паляне,
Ужо гінуць дзе ні глянеш.
Закрычалі кажаны:
— Мо мядзведзь ужо дурны?!
— А ласі, падняўшы рогі,
Уцячы ніяк не могуць,
А малыя ласяняты
Не вярнуліся дахаты,
А ласіха іх шукае,
Як знайсці малых не знае.

У сваёй мядзведзь бярлозе
Курыць люльку на парозе.
Нават мышка на пагорку
Ледзь знайшла пад пнямі норку

### СЯБРОЎСКАЯ РАЗМОВА

На сметніку мудрай вароне
Расказала ранкам сарока,
Нібы важнай персоне,
Што сядзела зусім недалёка.
— Павіншуй мяне, маму.
Маю многа я дзетак,
Усе вагою па кілаграму,
Можа чула пра гэта?

(Працяг на стар. 10)



*Марцін Кадлубоўскі з бельскай школы № 3 — удзельнік школьнай мастацкай самадзейнасці. Фота Я. Чэрнякевіч.*




На гэты раз рыбакам пашчасьціла. Сярод плотак, язёў і акунёў у невад трапіла нешта вялікае. Спачатку думалі, што палена якое, і нават жартавалі:

— Няма рыбы, дык хоць дроў наловім.

Аднак па ўсплёсках на вадзе здагадваліся, што цягнуць не палена, а нешта жывое.

Каля берага, на мелкім месцы, рыбіна адчула бяду: затрапяталася, але вырвацца не магла. Невад не надта быў нацягнуты, і яна з кожным падскокам усё больш закручвалася ў яго.

— Браточкі, ды гэта ж сом! Бачыце, вусы якія! — крыкнуў адзін з рыбакоў.

Сом, як добры падсвінак, толькі даўжэйшы, затрапятаўся і падскочыў зноў.

— Невад парве, — схапіў патарчаку другі рыбак і кінуўся да сома. Гэта на выпадак, калі не вытрымае невад, — аглаушыць рыбіну, каб не ўцякла. Але біць не прыйшлося.

Пяць рыбакоў паднапяліся, адцягнулі ўвесь улоў далей ад вады і рынуліся глядзець здабычу.

За колькі гадоў ім упершыню прываліла такое шчасце.

Якімі ж маленькімі выглядалі звычайныя плоткі побач з сомам! А ён, велікан між драбязы, не пераставаў кідацца збоку на бок. Не хацеў верыць, што яму, уладару возера, няма ратунку. Нарэшце супакоіўся, разяўляючы раз за разам пашчу.

У гэты час адзін з рыбакоў заўважыў, што сом пакалечаны.

— Браточкі, ды ў яго ж адно вока! — гукнуў ён.

— Адкуль ты ўзяў? — зайшлі рыбакі з другога боку, каб упэўніцца, ці праўду гаворыць іх сябар.

Рыбакі не ведалі, што праз калецтва сом і трапіў у іх невад. Каля сомавай схованкі праплываў ладны галавень. Сом заўважыў і кінуўся наўздагон.

Маленькія рыбкі далі драпака, хто куды. За малымі сом не надта ганяўся, бо мог і хітрыкамі лавіць маленькую рыбку. Як? Вельмі проста: зашыецца ў глей, варушыць вусамі ды цікуе, хто прыплывае глядзець, што там матляецца. Цікаўныя і сярод рыбак ёсць, як сярод людзей, а сому толькі гэта і трэба. Хапаць здабычу ён майстар!

У той дзень драпежнік быў надта галодны і кінуўся ў пагоню за галаўнём. Галавень, ратуючыся, не заўважыў, што насустрач рыбакі цягнулі невад, і трапіў з аднае бяды ў другую.

Раззлаваны сом таксама забыўся на небяспеку і рынуўся за галаўнём. Так яны і апынуліся абодва ў невадзе.

— Ці не той гэта драпежнік, пра якога расказвала цётка Мат-

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Васіль Хомчанка

### ЛІВЕНЬ

У лесе нечакана сыпануў дождж. Буйныя цёплыя кроплі гучна заляскалі па траве і лісцях дрэў.

І ўсе пачалі хавацца ад дажджу.

Жучкі, матылькі, мухі пазалазілі хто куды: у чашачкі кветак, пад лісце, у розныя шчылінкі.

Мышка прытаілася пад чырвоным грыбам мухаморам.

Сінічкі ў дуплы пахаваліся.

А жабы, што сядзелі на беразе сажалкі, думалі, думалі, куды б схавацца, і скокнулі ў ваду.

Так і прасядзелі там, пакуль лівень не скончыўся.

### СУСЕДЗІ

Сарока і сава — суседзі. Жывуць яны на адной сасне: сава ў дупле, а сарока на верхавіне.

Увечары, калі сарока спаць кладзецца, сава прачынаецца і ўсю ноч крычыць, не дае спаць суседцы.

„Я ж табе адплачу, — злуецца сарока. — Хай толькі дзень настане“.

І раніцай, як толькі сава залезе ў дупло, сарока-белабока ўзнімае такі шум, так стракоча, што бедная саве хоць вушы затыкай.

І такая калатня штодзень і штоночы ў іх.

— Ну і суседзі! — смяюцца жыхары лесу.

Уладзімір Правасуд

### ЧАМУ ЗАЯЦ КАСАВОКІ?

То было даўно, казалі,
Як хадзіў у школу заяц.
Ён заўсёды на уроках
Касавурыў адно вока.
Каб падглядзець у суседа,
У таго, хто ўрокі ведаў.
Сачыненне ці задачу
Спісваў заяц тут, як бачыш.
І паволі хітрасць тая
У хваробу вырастала.
Не на дзень, на ўсе часы
Хітры заяц стаў касым.

Анатоль Прахораў

### ПАМОЧНІЦА

У пляцёначкі цыбулю
Заплятала з бабкай Юля.
Вочы болей не смяюцца —
Слёзы з іх,
Блакітных
Льюцца.
Кажа Юля:
— Ой, бабуля!
Ў вочкі глянула цыбуля.

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) рэчыва, патрэбнае ў будаўніцтве, 5) вялікі вакальны калектыў, 7) мілітарны дагавор дзяржаў, 9) выстрал уверх, 10) на кані ў аглоблях, 11) адрэзак трасы, 12) „Ой і сеяла Ульяніца...", 15) дыскрымінацыя з увагі на колер скуры, 18) расплод рыб, 20) хатняя жывёла, 23) артыст-фокуснік, 26) літаратурны жанр, 28) пеніца ў вадзе, 29) буйная малпа, 30) лявей левага, 31) сярэднявяковая назва палякаў, 32) пасярэдзіне твару, 33) пахучы куст.

**Уніз:** 1) падпарадкаваная залежная асоба, 2) старажытнае племя славян (усходніх і заходніх), 3) з медыкаментамі, 4) у ёй таўклі крупы, 5) брыдкая вадкасць з арганізма жывёлы, 6) жорсткі дзяржаўны лад, 8) металічны кубак з вушкам, 13) сібірскі звярок на футра, 14) горад у Арэнбургскай вобласці РСФСР, 16) звязаная жменя, 17) можа быць прыпынку (у граматыцы), 19) ёмішча з дошак, 21) не ўяўныя абставіны, 22) хата індзейца, 23) від лебедзя, 24) жулікаваты хлопец, 25) расліна, якая паразітуе на дрэвах, 27) доўгая вяроўка з пятлёй на канцы.

„Ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 25.**

**Упоперак:** акіян, трава, будзільнік, туман, рыла, марш, аліва, цокат, Ямал, вілкі, БАМ, ачос, тол, вызваленне, акцёр, атлет.

**Уніз:** абора, курыльшчык, ідылія, язва, нітка, тлум, віншаванне, актэт, кабан, слава, міс, алтар, білет, амлет, воз, кола.

# НІЎКА

— З апошняй хвіліны: Госці з космасу прызямліліся на нашай планеце.

## БАБА Ў ЛЕКАРА

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— На што хварэеце? — пытаецца лекар.
— Доктар, гэта страшэнная хвароба. Увесь час размаўляю сама з сабою.
— Э-э, няма ў гэтым нічога страшнага.
— Але вы, доктар, не ведаеце, якая я пляткарка!

* * *

Прыходзіць баба да лекара і наракае на бяссонніцу. Лекар, якому тая баба надта надакучыла, дае ёй бутэлечку з таблеткамі і кажа:
— Вечарам вазьміце тры таблеткі і, калі заўтра раніцай прачнецеся, то вазьміце яшчэ дзве.

* * *

Прыходзіць баба да лекара і гаворыць:
— Доктар, я кепска чую!
— Зблізку ці здалёк?
— З Гомеля.

* * *

Прыходзіць баба да лекара са стралой у спіне.
— Што з вамі дзеецца? — пытае лекар.
— Нічога, толькі я купіла свайму сыну лук.

* * *

Прыходзіць баба да лекара-псіхіятра. У яе на галаве старая каструля, на вушах вісяць антэны, вакол шыі закручаны шланг, а замест ботаў — рукавічкі. Прывяла з сабой сабаку, размалёванага ў зоркі, кружочкі і трахвугольнікі.
— Што з вамі дзееца? — пытае лекар.
— Мне нічога, — адказвае баба, — я прыйшла ў справе майго мужа.

## СУЧАСНЫ ПАДЫХОД

Выклікае мяне дырэктар.
— Ігнат, — кажа, — адстаём ад сучаснасці.
— У чым справа? — цікаўлюся.
— На нарадзе я сёння быў, — тлумачыць, — з дырэктарам рамонтнага кабінета Лявонам Брыськам пагаварыў: на сучасным узроўні камбінат трымае.
— І ў нас на фабрыцы не горш, — заўважаю.
— Горш, — кажа. — У іх ЭВМ ёсць, а ў нас няма.
— Няма, — згаджаюся. — І навошта? Фабрыка невялікая: два цэхі. Без ЭВМ абыходзімся. Ды і энергіі электрычнай гэтая машына „есць", што ўся наша фабрыка.
— Кхэ-хэ, — заўсміхаўся дырэктар, — а мы яе ўключаць не будзем. Самі палічым.
— Навошта яна, калі лічыць няма чаго?
— Дзівак ты, Ігнат, — кажэ. — Колькі табе тлумачыць, што ад часу адставаць нельга.

Прыдбалі ЭВМ. Цэлы цэх заняла, а станкі з цэха ў падвал перапаставілі.

А ўчора я сам Брыську ў міністэрстве сустрэў: заклапочаны такі быў. Відаць, нешта сучаснае для камбіната выбіць хоча. Абскакаць нас сабраўся? Перахапіў яго, пытаюся, у чым справа.

— Эх, — уздыхнуў Брыська. — Здымаюць. Кажуць, што для сучаснага камбіната новы дырэктар трэба...

**Марат Баскін**

(„Вожык" № 7/1989)

## ЭКАНОМІКА

Нямала крытычных, а злосных
і больш
сказалі мы слоў на сягоння
наконт эканомікі нашай.
Ды ўсё ж
яшчэ раз хвала ёй і гонар!
Эпоха разрухі... Ці культа
гады...
Ды гонар мундзіру ўтрывала.
Эпоха застою... Нязгодны? Тады
настала эпоха развалу.
А вось чалавек і цяпер
не спасціг,
у чым яе вопыт і сіла.
Тут справы мільёнаў, мільярдаў
— уміг!
Яму ж — далі кавалачак мыла.
Пытанні існуюць. А зорны
сусвет
Да Марса — дарогі праз неба.
А гэта ж мільёны. Аднак яму
— не!
У суседнюю вёску патрэбна.
Дык вось паспрабуй растлумач,
разгадка ў чым яе тая?
Яшчэ невядома: танцуй
або плач,
Аднак перамены вітаем!

**Васіль Гедзька**

„Smiena"

**Ніва**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"

ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.

2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.

3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.

4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.

5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.

6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej: — wrzesień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1143/90.